# СПРАВЫ ДП

### КОЛЬКІ ВЫЕДЗЕ Ў ВЕРАСЬНІ?

Каля 9 тысячаў ДП мае выэміграваць у гэтым месяцы за мора, а з гэтае колькасьці больш палавіны з амэгледжана 11 караблёў: 5 у Канаду з 4.000 эмігрантаў, рыканскае зоны Нямеччыны. Для гэтае мэты праду-3 з 2.200 ДП у Аўстралію і 3 астальныя караблі адплывуць у Бразылію, Вэнэцуэлю й Аргентыну. Кажны з гэтых апошніх забярэ па 800 чалавек. Таксама і ў верасьні будзе дзейны паветраны траспарт у Вэнэцуэлю, які перавязе звыш 1.000 чалавек. Апрача таго пакінуць Нямеччыну дробнымі групамі й індывідуальна каля 2.000 асоб. Эміграцыйны кантынгент з амэрыканскай зоны зь ліпеня месяца, які налічваў 7.000 чалавек, будзе перавышаны ў верасьні на 1.000 асоб.

**(«Інфармацыя ПК ІРО», № 49).**

### КОЛЬКАСЬЦЬ ПРАЦУЮЧЫХ Д. П.

Спасярод 156.560 працаздольных ДП у лягерах амэрыканскае зоны Нямеччыны 63.396 маюць сталую працу, а 7.958 наведваюць розныя прафэсыйныя курсы. Бальшыня, бо аж 46.080, працуе з даручэньня ІРО ў лягернай адміністрацыі, спэцыяльных галінах працы (фабракацыя вопраткі для ДП і пад.) або дабрадзейных установах. Спасярод астальных каля 10.000 працуе самастойна, 4.833 працуюць пры арміі й 2.193 у нямецкай прамысловасьці.

Студэнты прафэсыйных трохмесячных курсаў маюць 40 гадзінаў заняткаў у тыдзень. 15 такіх курсаў утрымлівае ІРО, 41 — спецыяльная сусьветная арганізацыя і 2 — сусьветная царкоўная арганізацыя.

**(«Інфармацыя ПК ІРО», № 49).**

### КАРУЗІ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Старшыня амэрыканскай камісіі для прыняцьця 200.000 Д. П. у Амэрыку У. Карузі 7.9.48 прыбыў у Нямеччыну, дзе правядзе нарады з вайсковымі й канзулярнымі ўладамі ў справе прысьпешаньня эміграцыі Д. П. у ЗША.

Сп. Карузі заявіў прадстаўнікам прэсы ў Франкфурце, што ўжо 3 кастрычніка мае выехаць у Амэрыку першы транспарт з эмігрантамі, якія атрымаюць візы на падставе новага эміграцыйнага закону. Прадбачыцца, што на працягу кастрычніка выедзе ў Задзіночаныя Штаты 1.900 асобаў. У Задзіночаных Штатах ёсьць многа месца працы, дзе чакаюць на прыезд Д. П. Цяпер безадкладна распачнецца разгляд зложаных заяваў на атрыманьне візаў.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА СП. Р. АСТРОЎСКАГА

### ПАВАЖАНЫ СПАДАРУ!

У сувязі з нападам на мяне Вашага лістка № 20, што завецца «БІС», я пастанавіў зьвярнуцца да Вас з тых простых матываў, што на гэтым «згнілым» дэмакратычным захадзе, як гэта Вы яшчэ ў 1944 г. казалі, прынята, што калі сабака, хоць-бы і спатайка, кагось пакусае, адказнасьць за гэта нясе гаспадар.

У пашквілі, надрукаваным на мяне у гэтым Вашым «воргане», трусьлівы й нясумленны аўтар імкнецца зьняславіць маё імя, а як прычыну выкарыстаў той факт, што у № 22(25) «Бацькаўшчыны» быў надрукаваны артыкул пад загалоўкам: «Хто загубіў Другі Кангрэс?», які быў падпісаны літарамі «У. Ш.». Для «найдэмакратычнейшай» і «найпраўдалюбнейшай» Вашай «прэсы» гэта дастаткова, каб да літараў «У. Ш.» прычапіць маё імя з прозьвішчам і ачарніць маю асобу.

Я на гэтым мейсцы ўрачыста заяўляю, што гэнага артыкулу ня пісаў і не падпісваў, а значыць усе абвінавачаньні, зьвязаныя зь яго зьместам, на мяне кранаюць Апраўдываньне выстаўленых там тэзаў пакідаю аўтару. Я із свайго боку хачу адказаць на тыя паклёпы, што ня маюць сувязі із зьместам артыкулу і якія імкнуцца здыскваліфікаваць мяне, як чалавека й грамадзяніна.

Заяўляю, што сябрам БНП ніколі ня быў і ня меў зь ею ніякага кантакту, а аб тым, што быў кандыдатам у гэтую партыю, даведаўся толькі з Вашага «воргану». Дзеля таго й ня мог я пралазіць у гэтую партыю яшчэ ў 1944 годзе, як «бальшавіцкі агент для ўзрыву Кангрэсу». Зрэштай я, Спадар, ня Вашай натуры й ня так хутка, не падумаўшы, кудысь лезу. Навет на «2-гім Кангрэсе» напэўна ня быў-бы, каб Вы мяне раней належна паінфармавалі аб тым, чым у запраўднасьці меў быць гэны Ваш «2-гі Кангрэс». Я пэўны, што гэтак паступіла-б і бальшыня іншых удзельнікаў «2га Кангрэсу».

Што да прыйманьня ўдзелу ў галасаваньні, — гэткага-ж зусім на «2-гім Кангрэсе» ня было, а што да авацыяў, то добра памятаю, што ў двух выпадках асабліва ня пляскаў я ў далоні, а гэта: калі якісь з удзельнікаў крыкнуў: «хай жыве наш дажыватні прэзыдэнт Астроўскі», а другі раз, калі Вы, колькі хвілін пазьней, заявілі, што дэкляруеце ад «імя беларускага народу выпіць горкую чару зь Немцамі да дна» і гэтак далей... Памятаеце?

Мая прымітыўная мэнтальнасьць ня ўмела тады зразумець, як можна было ў сур'ёз прыймаць гэткія прапановы? А ў другім выпадку дэклярацыю пад адрысам немцаў аб «горкай чары» ўважаў я хлусьнёю й правакацыяй, **бо народ наш яшчэ ў 1941** годзе, на пярэдадні вайны Гітлера із Сталінам, выражаў сваю думку ў іншых словах, а іменна: «Дай Божа, каб Гітлер Сталіна разьбіў, а каб Гітлера пярун забіў». І я пэўны, што каб із усходу не бальшавікі йшлі, а амэрыканцы ці ангельцы, ня шмат немцаў вышла-б жывымі зь Беларусі.

Урэшце, што да пагрозы мне аб заплаце жыцьцём, я павінен сказаць Вам, спадар Астроўскі, што я менш баюся сьмерці, чым Вы. Бо калі Вы сядзелі ў польскім лягеры пад чужым прозьвішчам і бязьдзейна «прыглядаліся», як сёньняшнія «крывічы» будзілі здэзарыентаваныя тэрорам масы сьмялей глядзець на будучыню, а мо і прыглядаліся, ці ня йдзе там якісь з агентаў і па Вас, я ўжо два з палавінай гады адкрыта бараніў сотню нашых родзічаў ад фізычнага зьнішчэньня цераз НКВД ці маральнай загубы ў польскіх лягерах ДП. Дык-жа ня Вам судзіць мае грамадзкія вартасьці.

Больш Вы не знайшлі паклёпаў на мяне, але я на Вас, не паклёпаў, але праўды шмат мог-бы напісаць.

Прашу на будучыню больш лічыцца з праўдай, а сваіх аднадумнікаў «трымаць пры халяве», як кажа беларуская народная прыказка.

Да сваіх-жа асабістых знаёмых, якія яшчэ нясьведама трымаюцца зарубежжа, зьвяртаюся з гарачым заклікам падумаць над мэтадамі, якімі гэтыя людзі ачэрніваюць усё беларускае, і зрабіць з гэтага адпаведныя вывады.

Парыж, 27.8.1948.

**Уладзімер Шыманец.**

### ЗЬЕЗД Д. П. — ЖУРНАЛІСТЫХ

7.9.48 адбыўся ў Бад-Кісінген агульны зьезд Саюзу ліцэнцыяванае Д. П. — Прэсы з удзелам прадстаўнікоў ад беларусаў, калмыкоў, летувісаў, латышоў, мадзяраў, палякоў, расейцаў, украінцаў, эстонцаў і югаславаў. На парадку дня стаялі справы арганізацыйныя, фінансавыя, а таксама пытаньне далейшага вядзеньня выдаванае Саюзам у нямецкай мове газэты «Ім Аўслянд». Зьезд прыняў колькі важных пастановаў у асноўных пытаньнях парадку дня, якія дазволяць уцякацкай прэсе амэрыканскае зоны арганізавана асіліць фінансавы крызыс і гэтым утрымаць здабытыя Саюзам палітычныя пазыцыі.

---

ад народаў цывілізаваных, як французы, немцы, ангельцы, ці амэрыканцы, дзе каталіцкая ці пратастанцкая бальшыня па брацку жыве з вызнавальнікамі іншых рэлігіяў.

**Калі-ж** ходзіць аб ратаваньні праваслаўя сярод беларусаў, дык аб гэтым запраўды варта задумацца тым беларусам, каму справа гэтая зьяўляецца дарагой. Але для кажнага здарова думаючага зусім ясна, што ўратаваць праваслаўе на Беларусі і сярод беларусаў можна толькі адным шляхам — пры ўтрыманьні **Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы,** а не сьпіханьнем яго на рэйкі расейскага зарубежжа і «польскага праваслаўя».

З выжэй сказанага ясна вынікае, які мой пагляд у царкоўных справах:

1. Ажыцьцяўленьне Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы.

2. Усамастойненьне Беларускай Каталіцкай Герархіі на тых самых асновах,, як гэта ёсьць сярод іншых каталікоў у сьвеце.

3. Поўная талеранцыя й пашана для ўсіх іншых веравызнаньняў на Беларусі.

**9-ае пытаньне:** Назавіце прэзыдэнта па тэстамэнту хоць аднэй якой-небудзь краіны?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Цэлы шэраг і па простаму пераданьні прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў, калі складаліся такія абставіны ў таго ці іншага народу, калі такі прэзыдэнт апыняўся на чужой тэрыторыі, а народ ня меў магчымасьці высказаць у гэтым пытаньні вольна і свабодна сваю волю.

Напрыклад — пасьля сьмерці Прэзыдэнта Украіны— Пятлюры — абняў ягонае становішча прэм'ер міністраў Д. А. Лявіцкі (навет без тэстамэнту), і ў украінцаў ягоныя паўнамоцтвы не дыскутуюцца і не паўстае пытаньне аб перавыбарах прэзыдэнта на эміграцыі.

Другі прыклад — польскі Прэзыдэнт Масьціцкі перадаў свае паўнамоцтвы за жыцьця яшчэ, апынуўшыся ў Швайцарыі, Рачкевічу, а прэзыдэнт Рачкевіч, уміраючы, Залескаму.

Аж тры разы адбылася тэстамэнтальным парадкам перадача прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў у гішпанскіх рэспубліканцаў, урад якіх вызнаецца законным «дэ юрэ» шэрагам дзяржаваў сьвету, а ў тым ліку і Савецкім Саюзам зь ягонымі сатэлітамі.

Францускі прэзыдэнт Лебрэн, захацеўшы падацца ў вадстаўку, але калі пры акупацыі Францыі немцамі і ваенных абставінах перавыбары былі немагчымыя, перадаў свае паўнамоцтвы маршалу Пэтэну. У балтыйскіх народаў практыкуецца сяньня тое самае.

Адным словам такі спосаб пераданьня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў пры немагчымасьці правядзеньня вольных і свабодных выбараў на бацькаўшчыне ўвайшоў ўжо ў звычаёвае міжнароднае права, якое нікім не квэстыянуецца.

Мы бэзнэраўцы нічога тады новага ня выдумалі і законнасьць тэстамэнту сп. Прэзыдэнта В. Захаркі з гледзішча міжнароднага права ня толькі не слабейшая, але навет, у прыраўнаньні да некаторых выпадкаў у іншых народаў, мацнейшая, бо сп. Прэзыдэнт Захарка быў выбраны заступнікам Прэзыдэнта П. Крэчэўскага яшчэ ў Беларусі. Першы Ўсебеларускі Кангрэс даў свае неабмэжаныя паўнамоцтвы Прэзыдэнту Рады аж да наступных вольных выбараў у Беларусі. Прэзыдэнт Захарка таму ня толькі меў права, а й сьвяты абавязак перад сваім народам пакінуць гэткі тэстамэнт, бо інакш ніхто-б цяпер з нас на эміграц і ня меў права выступаць перад сьветам ад імені ўсяго беларускага народу. І мы эмігранты маглі-б тады выступаць толькі ад свайго собскага імені эмігрантаў. **Весь гэтага якраз і хочуць нашыя варагі,** таму яны й вядуць аж такую атаку супраць тэстамэнту спадара Прэзыдэнта Захаркі.

**13-ае пытаньне:** Які вораг для Беларусі больш страшны: палякі ці ўласаўцы?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Ні тыя ні другія ня будуць нам страшныя, калі беларуская грамадзкасьць, сьведамая сваіх мэтаў і верная сваім незалежніцкім ідэалам, скансалідуецца ў вадзін наш вызвольны фронт. Ступень-жа варожасьці да нас тых ці іншых нашых суседзяў мусім мерыць тым, як яны адносяцца да нашай самабытнасьці, нашай сувэрэннасьці і нашых граніцаў. Сярод польскіх палітычных дзеячоў спатыкаецца ўжо ня мала адзінак, якія ня толькі не пярэчаць нашаму законнаму праву на дзяржаўную незалежнасьць у нашых этнаграфічных межах, а бачаць навет у гэтым большую гарантыю і для незалежнасьці свайго народу. Нажаль, людзі гэныя яшчэ ў меншыні сярод свайго грамадзянства. Заданьнем беларускае дыпляматыі дапамагчы ім стацца бальшынёй. Гэткая-ж нашая вонкавая палітыка мусіць быць і ў дачыненьні да ўсіх нашых суседзяў. Бо заданьнем кажнага палітыка наагул — рабіць усе высілкі, каб абараніць свае інтарэсы мірным дыпляматычным шляхам. Я вельмі-б цешыўся, калі-б і між расейцаў знайшлася хоць маленькая група такіх дзеячоў, якая павяла-б працу сярод сваіх суродзічаў у кірунку адмаўленьня імі ад няслушных прэтэнсыяў на нашую сувэрэннасьць і нашыя землі. Я перакананы, што ўсе тыя палітыкі й не палітыкі з Захаду і Ўсходу, што яшчэ ня выжылі сваіх агрэсыўных апэтытаў, раней ці пазьней будуць змушаны ад іх адрачыся, да гэтага йдзе й да гэтага прыйдзе. Гарантыяй гэтаму ёсьць нашае бясспрэчнае сьвятое права і эвалюцыя сусьветнай палітычнай апініі. Трэба нам толькі энэргічна й настойліва працаваць, але працаваць умела, разумна й гібка, ня сходзячы, зразумела, з сваіх пазыцыяў. А пазыцыі нашыя выразна й яскрава вызначаныя канцэпцыяй БНР як у нашай нутранай, так і вонкавай палітыцы

**14-ае пытаньне:** Які Вы бачыце выхад з дуалізму сярод беларускай эміграцыі?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Ня бачу ніякага дуалізму, але толькі супраціў невялікай часткі беларусаў у Нямеччыне, здэзарыентаванай і абаламучанай варожымі нашым нацыянальным інтарэсам дзейнікамі. Калі-ж для вас гэта дуалізм, дык выхад зь яго просты: уліцца ў кадры нашага агульнага вызвольнага руху і ўсё. Зьяўляюцца абсалютна беспадстаўнымі выдумкі, што быццам Рада БНР складаецца выключна з аднэй нейкай партыі «крывічоў», якая, — як я казаў раней — наагул ня існуе. Рада БНР налічвае сяньня да 150 чалавек. Гэта прадстаўнікі ці то існаваўшых палітычных партыяў у Беларусі (БНП, нацыянал-дэмакраты, хрысьціянскія дэмакраты й інш.), ці існуючых сяньня на эміграцыі, а ў бальшыні гэта беспартыйныя, якіх можна было-б назваць проста беларускімі патрыётамі, рэспубліканцамі-незалежнікамі.. Няма таму абсалютна чаго баяцца тым беларусам, якія, застаючыся паза кадрамі Рады БНР, думаюць, што калі-б яны прыйшлі да Рады, дык іх-бы там захлынула нейкая «крывіцкая» партыя. Дзьверы Рады БНР не зачыненыя для кажнага дзейнага і сумленнага беларускага патрыёта, дэмакрата й рэспубліканца. Гэта вы бачылі хоць-бы з прыкладу выбараў і пасылкі дэлэгатаў у Раду БНР беларусамі францускае зоны, з Бэльгіі, Англіі і г. д. Ніводнаму з прадстаўленых нам дэлегатаў у прыйме да Рады ня было адмоўлена і ня будзе адмоўлена, паколькі іх выбіралі запраўды беларускія арганізацыі й установы.

**15-ае пытаньне**: Які Ваш пагляд што да зьмены нашага нацыянальнага назову на «Крывію» і зьмены беларускага гэрбу?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Я думаю, што тычыцца нацыянальнага назову «Крывія», дык я ўжо высказаў свой пагляд ясна. Што да праблемы «зьмены гэрбу», дык гэта яшчэ больш характэрна, як гэта вы і вашыя аднадумнікі патрапляюць рабіць марскую буру ў шклянцы вады. Досыць камусь аднаму высказаць якіясь свае меркаваньні, навет хоць-бы ў форме «ці не варта было-б нам зрабіць тое або сёе», як вы ўсе адразу ў званы й колакалы... Вы вазьміце любую прэсу, любы парлямант якогась народу ў сьвеце. Хіба-ж мала там падаецца розных праектаў, над імі дыскутуюць, спрачаюцца, але па людзку, а калі такі ці іншы праект бальшынёю прыймаецца ці адкідаецца, на гэтым і канчаецца. Вам-жа «Крывія» і «двухгаловая Пагоня» пэўне застанецца адзінай тэмай гутаркі аж да сьмерці.

---

На гэтым гутаркі сп. Прэзыдэнта зь беларусамі лягеру Лютэнзэ закончыліся.

Ніхто з прысутных, апрача сп. Сымона Шаўцова, ня выказваў ніякіх прэтэнсіяў да сп. Прэзыдэнта. Наадварот, усе былі вельмі задаволеныя із спатканьня і праведзенага часу зь ім, навет сам сп. Шаўцоў на разьвітаньне неяк зьбянтэжана трохі сказаў у прысутнасьці ўсіх, што ў рэлігійным пытаньні ён зусім задаволены адказамі сп. Прэзыдэнта і перакананы імі, але ў іншых не. Аднак сп. Прэзыдэнт адказаў, што мала было часу на шырэйшую гутарку і пажадаў яму, каб перадумаў усё шчыра й сумленна, тады і ў іншых пытаньнях дойдзе да такога-ж высnаву, што і ў пытаньні рэлігійным.

Хай цяпер прачытаюць прысутныя ў залі гэтую маю справаздачу і артыкул сп. С-н ды пераканаюцца, як лёгкія на выдумкі пісакі зь «Беларускай Волі».

(Канец).

# Зь Беларускага Жыцьця

### ДОБРАЯ ІНІЦЫЯТЫВА БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ

У Канадзе знаходзіцца паважная колькасьць беларусаў: бальшыня іх — гэта старыя эмігранты, што прыбылі сюды перад вайной або яшчэ шмат раней, і мяншыня — гэта новая паваенная эміграцыя. На яе складаюцца беларусы, што прыбылі сюды з польскай арміі ў Ангельшчыне на кантракты двухгадовае працы на сельскай гаспадарцы, і тыя, што прыехалі зь Нямеччыны на дзесяцімесячныя кантракты працы ў лясох, капальнях і інш.

Калі ходзіць пра старую эміграцыю, дык яна ў ладнай меры зрусыфікаваная, або, што яшчэ горш, скамунізаваная, а дзеля гэтага яе ня толькі пакуль што нельга выкарыстаць у грамадзкай працы, але яшчэ многа трэба над ёю працаваць. Вось гэта, між іншых грамадзкіх заданьняў, і ставяць за галоўны свой абавязак новыя беларускія эмігранты, людзі ідэйныя й нацыянальна сьведамыя. Так як іх у Канадзе яшчэ ня шмат, пры гэтым будучы зьвязанымі кантрактамі зь месцам сваей працы й расьсеенымі па ўсей вялізарнай краіне, яны дагэтуль ня мелі магчымасьці стварыць тут сваей арганізацыі, якая гуртавала-б усіх беларусаў у Канадзе.

Але гэта не абазначае, што ў Канадзе не праводзіцца беларуская арганізаваная праца. Наадварот, яна вядзецца й дае большыя вынікі, чымсьці ў некаторых іншых краінах, дзе ўжо навет ад даўжэйшага часу існуюць беларускія арганізацыі.

Улетку мінулага году прыехаў у Канаду сп. К. Акула й на прапанову Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ўзяў на сябе цяжар лучнасьці паміж беларусамі ў Канадзе й ініцыятыву іхнага зарганізаваньня. Трэба прызнаць, што сп. Акула бліскуча вывязаўся із свайго заданьня. Ён навязаў тут лучнасьць з усімі сьведамымі беларусамі й нашымі арганізацыямі ў Эўропе, шырака павёў акцыю помачы беларусам у Нямеччыне, добра рэдагуе месячны часапіс «Беларускі Эмігрант», які стаіць на высокім ідэалягічным узроўні й зьяўляецца цэнтрам сувязі паміж канадыйскімі беларусамі й іхнымі суродзічамі ў Эўропе.

Апошнім часам сп. Акула разам із сваімі супрацоўнікамі прыступіў да канкрэтнай рэалізацыі даўно насьпелага праекту - стварэньня беларускай цэнтральнай арганізацыі ў Канадзе. Дзеля таго, што ў многіх навапрыехаўшых сюды беларусаў кантракты ўжо кончыліся, у іншых хутка канчацца, яны будуць мець свабодны выбар месца жыхарства й працы ў Канадзе. Дзеля гэтага вядзецца акцыя за асяленьне іх у вадным цэнтральным пункце Канады, на які прапануецца выбраць горад Торонто. Там-жа хутка мае паўстаць беларуская арганізацыя.

«Справа арганізацыі беларусаў у Канадзе ня церпіць адкладу. Гэта зьвязана з агульнай палітычна-грамадзкай сытуацыяй нашай эміграцыі. Мы, беларусы з Канады, знаходзімся ў сытуацыі мо найлепшай параўнальна да нашых суродзічаў ува ўсіх іншых краінах сьвету. Галоўнае — матарыяльна ня толькі ня церпім нястачаў, але яшчэ здольны памагчы іншым, апрача таго карыстаемся з усіх прывілеяў заходняй дэмакратыі. Апошнім-жа часам сытуацыя нашых суродзічаў у Нямеччыне выдатна пагоршылася. Сюды наплываюць лісты з просьбамі аб дапамозе. Гэтая дапамога і будзе нашым першым абавязкам. Як найхутчэйшае зарганізаваньне тутэйшых беларусаў ляжыць таксама ў інтарэсе нашай эміграцыі й нашага народу й з пункту гледжаньня палітычнага». — піша сп. Акула ў вартыкуле «Нельга адкладаць», зьмешчаным у Но. 7 «Беларускага Эміграннта».

Пішучы аб гэтых прыгожых праектах нашых суродзічаў у Канадзе, мы верым, што яны хутка будуць зьдзейсьненыя. Гэтага мы ім жадаем ад нашага шчырага беларускага сэрца.

**С. Сініца.**

## У БЕЛЫ ДОМ ПРЫБЫЎ ПАСОЛ...

### ФАНТАСТЫЧНАЯ НАВЭЛЯ З ПРАЎДАПАДОБНЫМ ЗЬМЕСТАМ

**Ад Рэдакцыі:** Пад такім загалоўкам амэрыканскі тыднёвік «Кольер» памясьціў фантастычную навэлю, якая зьяўляецца замаскаваным заклікам да пільнасьці. З гледзішча на арыгінальнасьць і фантастычнасьць ейнае фабулы ды на вялікую сэнсацыю, якую яна выклікала ў Амэрыцы, перадрукоўваем яе тут за газетай «Неділя».

Прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Амэрыкі толькі што зьбіраўся пакінуць свой кабінэт і йсьці сьнедаць, як яго паведамілі, што ў Белы Дом прыбыў пасол Мітурскі, які жадае бачыцца з прэзыдэнтам у сьпешнай й вельмі важнай справе. Зацікаўлены прэзыдэнт, каб не парушаць правілаў міжнароднае ветлівасьці, загадаў папрасіць пасла ў кабінэт.

— Спадару прэзыдэнце, — пачаў пасол, — я маю паведамленьне ад майго ўраду, якое павінна астацца ў поўнай тайніцы. Я вельмі прашу спадара прэзыдэнта на прыватную размову.

— Калі ласка, — адказаў прэзыдэнт, — пойдзем у мой працоўны пакой.

За 15 хвілінаў пасол ад'ехаў. Прэзыдэнт паклікаў двух сакратароў. Аднаму ён сказаў:

— Выклічце наступны нумар тэлефону й передайце вось такія пытаньні. Зрабіце гэта безадкладна й як найхутчэй прынясіце мне адказы.

Другому сакратару прэзыдэнт сказаў:

— Зараз-жа запрасіце ўсіх сяброў кабінету й шэфа Генэральнага Штабу на надзвычайнае паседжаньне.

Кабінэт сабраўся за гадзіну пасьля таго, як пасол Мітурскі пакінуў Белы Дом. Перад прэзыдэнтам ляжалі два дакумэнты: паведамленьне пасла й адказы на тэлефонныя запытаньні.

Узяўшы першы дакумэнт, прэзыдэнт сказаў:

— Джэнтэльмэны! Я запрасіў Вас сюды дзеля таго, шт наш край неспадзявана апынуўся перад такой страшнай і раптоўнай небясьпекай, якой яшчэ ня знала нашая гісторыя. Пасол Мітурскі з гадзіну таму наведаў Белы Дом з нотаю свайго ўраду. Я прачытаю яе Вам:

«Яго Эксцэленцыі Прэзыдэнту Задзіночаных Штатаў.

На працягу многіх месяцаў нашыя краі ўсімі сіламі намагаліся дайсьці да паразуменьня й забясьпечыць мір на ўсім сьвеце. Мы нічога ў гэтым не дасягнулі. Дзьве нашыя ідэалёгіі ня могуць жыць у згодзе на аднэй і тэй самай плянэце. Прадаўжаньне змаганьня ў збраеньні нашых краёў можа канец канцоў прывесьці да поўнага зьнішчэньня абедзьвюх нацыяў і нашых саюзьнікаў. Мы ўважаем за бескарыснае прадаўжаць нашыя дыпляматычныя спрэчкі, тады, калі ўсе нашыя праблемы могуць быць разьвязаныя зусім проста. Таму мы ўжылі наступных захадаў:

1. 12 самалётаў тыпу В-29 з адзнакамі арміі ЗША, але з нашаю камандаю, кажны з трымя атамнымі бомбамі прызяміліся ў такіх гарадох: Сан-Францыско, Лёс-Анжэлес, Сэн-Люі, Канзас-Сіты, Вашынгтон, Пітсбург, Дэтройт, Новы-Орлеан, Філядэльфія, Бостон, Нью-Ёрк і Чыкаго.

2. Адразу пасьля прызямленьня кажны самалёт зустрэлі тры грузавыя аўтамабілі амэрыканскага вайсковага тыпу. Кажны аўтамабіль узяў з самалётаў па аднэй атамнай бомбе. Гэтыя аўтамабілі былі кіраваныя прыхільнымі да нашага ўраду амэрыканскімі грамадзянамі, якія даставілі бомбы ў стратэгічныя пункты у кажным із успомненых гарадоў».

Тут чытаньне прэзыдэнта перарваў міністар абароны:

— Але-ж гэта немагчыма, — сказаў ён, — нашыя органы бясьпекі...

— Я сказаў паслу Мітурскаму, што гэта немагчыма, — адказаў прэзыдэнт, — але ён адказаў, што мы былі-б зьдзіўленымі, калі-б даведаліся, колькі людзей з органаў дзяржаўнае бясьпекі зьяўляюцца іхнымі прыхільнікамі...

— Але-ж вайсковыя аўтамабілі!.. — пачаў быў шэф Генэральнага Штабу.

— Мы ўжо прадалі тысячы іх прыватным асобаам па ўсей краіне — сказаў прэзыдэнт.

— Амерыканскія вайсковыя ўніформы цяпер можна знайсьці на ўсім сьвеце. Ці здаецца гэта магчымым, ці не, але гэта можа стацца. Я праверыў тэлефанічна гэтыя паведамленьні пасла. Гэтыя лётнікі В-29 сыгналізавалі аварыі сваіх машын і дасталі дазвол прызямліцца. Ніводнае зь лётавішчаў навет не дапытала іх.

Больш ужо ніхто не перарываў прэзыдэнта, і ён прадажаў чытаць далей:

«Бомбы цяпер ужо на прызначаных мясцох.

А таму мы вымагаем ад Вас, як Прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў:

1. Загадаць раззброіцца амэрыканскай арміі, флёту й вайсковым аб'ектам.

2. Загадаць паветраным сілам аставацца на зямлі.

3. Выдаць загад ваенным караблём плысьці ў найбліжэйшыя парты й чакаць нашых далейшых распараджэньняў.

4. Загадаць усім акупацыйным амэрыканскім адзінкам у іншых краінах безадкладна скласьці зброю й прыгатавацца да сустрэчы нашых высокіх афіцэраў, якія мусяць прыняць іхнае падданьне.

5. Паведаміць цераз радыё Вашае насельніцтва, што найменшы супраціў выкліча катастрофу ў успомненых гарадох, ахвяраю якой станецца іхнае насельніцтва.

6. Паведаміць таксама насельніцтва, што нашыя прадстаўнікі перабяруць урадаваньне Задзіночанымі Штатамі заўтра апаўдні. Амерыканскія грамадзяне, што сымпатызуюць нашаму ўраду, адначасна маюць обняць кіруючыя становішчы ў усіх гарадох і населеных пунктах Амэрыкі.

7. Загадаць Вашым грамадзянам здаць собскую зброю нашым прадстаўніком.

8. Паведаміць насельніцтва, што нашая адміністрацыя й войска пачнуць прыбываць у Задзіночаныя Штаты заўтра апаўдні. Яны высадзяцца ў Бастоне, Нью-Ёрку і ў гарадох заходняга ўзьбярэжжа. Іхныя высадкі павінны адбыцца без перашкодаў.

Пане Прэзыдэнце, гэты ультыматум мусіць быць прынятым або адкінутым на працягу двух гадзін з таго мамэнту, калі наш пасол перадасьць яго ў Вашыя рукі. Калі-ж ён будзе адкінутым або астанецца без адказу ў вышэй азначаным тэрміне, нашая акцыя разпачнецца. Тры атамныя бомбы выбухнуць у Нью-Ёрку за 30 хвілін. Бомбы ў 11 іншых гарадох выбухнуць на 15 хвілінаў пазьней. На працягу некалькіх сэкундаў Задзіночаныя Штаты страцяць 12 найважнейшых індустрыяльных, вайсковых і камунікацыйных цэнтраў ды адміністрацыйных асяродкаў. Пры гэтым згіне 10 мільёнаў амэрыканцаў».

Прэзыдэнт асьцярожна паклаў дакумэнт на стол перад сабою.

— Джэнтэльмэны, — сказаў ён, — такая ёсьць сытуацыя. Нам астаецца менш гадзіны часу. Што маем рабіць?

### КАМПАЗЫТАР КУЛІКОВІЧ ЦЯЖКА ХВОРЫ

Да нас дайшла сумная вестка, што шырака ведамы й заслужаны беларускі кампазытар Мікалай Куліковіч, аўтар некалькіх лепшых беларускіх опэраў, цэлага мноства драбнейшых музычных твораў, а таксама й актыўны працаўнік беларускае сцэны на эміграцыі, апошнім часам падчас гастроляў зь Беларускім Тэатрам Эстрады ў Аўзбургу стаўся ахвяраю нешчасьлівага выпадку, у выніку якога спаткала яго цяжкае пакалечаньне.

Кампазытар Куліковіч пасьля апэрацыі знаходзіцца цяпер у шпіталі ў Аўгзбургу.

Падаючы аб гэтым да ведама нашага грамадзянства, Беларускі Нацыянальны Камітэт і Рэдакцыя выказвае гэтым сваё глыбокае спачуваньне спадару Куліковічу й ягонай сям'і ды жадае яму як найхутчэйшага выздараўленьня.

### ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Гэтым ветліва просім нашых чытачоў безадкладна ўрэгуляваць падпіску на «Бацькаўшчыну», бо толькі такім спосабам нашая газэта здолее рэгулярна выходзіць.**

**Падпіска на год каштуе 14 н. марак, на паўгода — 7 н. марак, на 3 месяцы — 3,50 н. марак. Тыя, што аплацяць падпіску згары на цэлы год, атрымаюць бясплатную прэмію ў якасьці трох беларускіх кніжак. Тыя, што аплацяць падпіску на паўгода, атрымаюць адну кніжку, як прэмію.**

**Разам з 26(29) нумарам газэты, Рэдакцыя разаслала рахункі задоўжанасьці тым нашым чытачом, якія зьяўляюцца Рэдакцыі вінаватымі за дасюлешняе атрымліваньне газэты. Напамінаем, што гэтая задоўжанасьць мусіць быць безадкладна ўрэгуляваная, бо ў праціўным выпадку ім будзе спыненае высыланьне газэты.**

**Мы горача заклікаем нашае грамадзянства падтрымаць адзіную беларускую газэту на эміграцыі шляхам рэгулярнага аплачваньня падпіскі, прыдбаньня новых падпішчыкаў, урэгуляваньня дасюлешняй задоўжанасьці й складаньня ахвараў на выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны».**

**Рэдакцыя й Адміністрацыя.**

**«Бацькаўшчына» павінна стацца выменаю думак нашае эміграцыі. Пішыце аб усім: Вашым жыцьці, паглядах, імкненьнях і пажаданьнях, а ўсё гэта знойдзе сваё адбіцьцё на балонах нашае газэты.**

### ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ

**Гэтым паведамляем нашых чытачоў у Вялікабрытаніі, Францыі, Бэльгіі, Канадзе й Аргентыне, што, пачынаючы з Но. 29(32), газэта будзе ім высылацца не непасрэдна, але за пасярэдніцтвам Прадстаўніцтваў нашае Рэдакцыі ў кажнай з гэтых краінаў. Адрасы Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны» наступныя:**

**1. У Вялікабрытаніі:**
**Association of Whiteruthenians in Gt. Britain 49, Linden Gardens, London, W. 2. England.**

**2. У Францыі:**
**Union des Travailleurs Bielorussiens en France 26 Rue de Montholon, Paris 9. France.**

**3. У Бэльгіі:**
**Mr. Kalinka Mikalaj, Rue de Bavendoel 4. Milmort-Liege. Belgique.**

**4. У Канадзе:**
**Mr. Pituska Jozeph, General Delivery. Ottawa. On'. Canada.**

**5. У Аргентыне:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina, Calla Maza, 150. Buenos-Aires. Argentina.**

**Непасрэдна з гэтых Прадстаўніцтваў трэба ў далейшым выпісваць «Бацькаўшчыну» й там-жа ўрэгулёўваць належнасьць за яе.**

**Адначасна просім нашых паважных суродзічаў паза Нямеччынай шырэй падтрымаць фінансова нашую газэту.**

**Рэдакцыя й Адміністрацыя.**

## НАШ ФОНД

У сувязі з грашовай рэформай у Нямеччыне й зьменай вартасьці нямецкай маркі справаздачу з атрыманых грошаў на фонд «Бацькаўшчыны» пачынаем з гэтага нумару на нова. Грошы атрыманыя ў замежнай валюце й прадметы падаём у пераводзе на нямецкую марку. І так за апошні час атрымана ў новых марках:

| | |
|---|---|
| Група беларусаў у Англіі «Дванаццатка» | 300,00 н. м. |
| Квяткоўскі Юрка з Канады | 72,50 н. м. |
| Акула Кастусь з Канады | 40,00 н. м. |
| Пітушка Язэп з Канады | 29.00 н. м. |
| Грыцук Аляксей з Канады | 23,00 н. м. |
| Салановіч Т. з Канады | 13,00 н. м. |
| Згуртаваньне Беларусаў у Аргентыне | 58,00 н. м. |
| Стэцька П. з ЗША | 29,00 н. м. |
| Працаўнікі беларускага лягеру ў Остэргофэне | 1,079,95 н. м. |
| Др. Войтэнка В. | 50,00 н. м. |
| Др. Гагалінскі Ігнат | 40,00 н. м. |
| Др. Тумаш В. | 20,00 н. м. |
| Усяго | 1.754,45 н. м. |

Усім ахвярадаўцам — шчырая падзяка!

Кажны грош, зложаны на фонд «Бацькаўшчыны», зарука сыстэматычнага выхаду газэты.

**Whiteruthenian Weekly „The Fatherland“**
Authorized by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 20 July 48, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies.
Administration: (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian, D.P.Camp.
Edited by: Whiteruthenian National Commitee.
Printed by: Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 3a.